

# КАЛІВА

№14

КАСТРЫЧНІК 2000 г.

Бюлетэнь Берасьцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў "Вежа"



# «Да лепшага жыцця - праз сапраўдныя выбары»

**Нічога не стаіць на месцы, усё змяняецца, бо час - такая рэч: яго нельга спыніць. Як нельга прымусіць жыць на мяжы выжывання сотні тысяч людзей. Калі-небудзь цярпенне народа перасячэ пэўную рысу. Нават калі гэта тычыцца памяркоўных беларусаў.**

Гэта бачна, калі проста параўнаць колькасць людзей на двух апошніх мітынгах, якія арганізоўвалі берасцейскія дэмакратычныя сілы. Калі вясной, пад час "Дня волі" на стадыёне "Будаўнік" сабралася 300-400 чалавек, то на мітынгу, лозунгам якога было «Да лепшага жыцця - праз сапраўдныя выбары», што адбыўся 8 кастрычніка ў тым жа месцы, сабрася, па самых сціплых падліках, 1500-2000 чалавек. Гэта калі не лічыць міліцыю. Дарэчы, яе гэтым разам было, што даволі дзіўна, вельмі мала. Відавочна, што ўлады альбо не хацелі ствараць перад выбарамі нейкай негатыўнай інфармацыі, альбо проста пралічыліся. Трэба адзначыць вельмі добрую рэкламу акцыі: яшчэ за некалькі дзён амаль усе аўтобусы, тралейбусы, слупы, дзверы ў крамы былі абклееныя налепкамі-абвесткамі.

У гэты дзень акцыі падобнага кшталту праходзілі ў 23 гарадах Беларусі. І так атрымалася, што берасцейская была самай шматлюднай. Сапраўды, у навейшай гісторыі берасцейскай апазіцыі цяжка так адразу ўзгадаць што-небудзь настолькі паспяховае. Казырнымі тузамі мерапрыемства сталі два менчукі і вельмі вядомыя ў краіне асобы - адзін з лідэраў БНФ «Адраджэнне» Юры Хадыка і старшыня БСДГ Станіслаў Шушкевіч. Яшчэ адзін казырны туз, на гэты раз гарадзенскі, бард Віктар Шалкевіч, на жаль, прыехаць не здолеў. Недзе на пачатку мітынгу, калі ішло прадстаўленне прамоўцаў, адбыўся невялічкі інцыдэнт. Нейкі здаровы пенсіянер у кепцы і спартовых штанах з лампасамі пачаў абражаць прысутных. Мітынгоўцы запатрабавалі пазбавіцца ад гэтага правакатара, і праз хвіліну патрульна-ахоўная служба з бел-чырвона-белымі павязкамі выціснула дзядзьку на бяспечную адлегласць.

Мітынг пачаўся з выступа Станіслава Шушкевіча. Ён заклікаў не ісці на выбары, таму што тое, што прапаноўвалася гэта не выбары, а абранне світы, кармушачнікаў. Лідэр сацыял-дэмакратаў адзначыў, што трэба абраць нармалёвы шлях развіцця, а не ісці разам з Мілошавічам, Кастрам і іншымі дыктатарамі. Дарэчы, амаль ва ўсіх выступах гучала адна думка: байкот выбараў і дрэннае эканамічнае становішча. Прычым адкрыта да байкоту ніхто не заклікаў, проста кожны прамоўца выказваў свой асабісты пункт гледжання.

Найбольш каларытным атрымаўся выступ старшыні берасцейскай філіі Маладога Фронта Сержука Бахуна. У сваёй звышэмацыянальнай прамове ён адзначыў неабходнасць няўдзелу ў выбарчым фарсе і дыктатарскую сутнасць рэжыму, што пануе зараз у Беларусі. І пацвердзіў свае словы наступным: "Сярод нас ёсць людзі, якія здымаюць нас на відэакамеру. Яны належаць спецслужбам. Здымайце, калі ласка, я вас не баюся. Калі хочаце, я нават вам сваю візітоўку дам". Другі прадстаўнік маладога пакалення Дзмітры Шыманскі быў менш эмацыянальны і больш разважлівы. Ён звярнуўся да старэйшага пакалення з просьбай падумаць аб сваіх дзецях, калі яны будуць рабіць выбар. Усіх уразілі крыштальныя вершы Ярыны Берасцейскай. Кіраўнік Цэнтра "Вежа" Іна Кулей звярнулася да грамадскасці ад імя маці, ад імя жанчыны, зазначыўшы, што сапраўдны дзень выбару будзе не 15 кастрычніка, а крышачку пазней. Яна пажадала ўсім, каб наша жыццё не было такім жа шэрым, як асфальт на стадыёне. Мікалай Яроміч з Аб'яднанай грамадзянскай партыі распавёў вядомы анекдот пра беларуса, якога павесілі, і ён прызвычаіўся, выказаўшы надзею, што на прэзідэнцкіх выбарах у апазіцыі будзе адзіны кандыдат.

*Заканчэнне на 2 стар.*



НАВІНЫ

*** **10 верасня 2000 г. у Цэнтры "Вежа" пад кіраўніцтвам праграмы "Прававая клініка" праходзіў семінар-трэнінг "Што такое правы чалавека?" для студэнтаў берасцейскага рэгіёна.**




Пад час семінара ўдзельнікі абмяркоўвалі пытанні філасофіі правоў чалавека, унутрыдзяржаўныя і міжнародныя механізмы абароны правоў чалавека. Студэнты вышэйшых установаў Берасця на прапанаваных прыкладах паспрабавалі вызначыць выпадкі парушэння правоў чалавека. Зразумела, цяжка разгледзець усе моманты ў такой глабальнай тэме за адзін дзень, але працу магчыма працягнуць з дапамогай матэрыялаў семінара-трэнінга, якія падрыхтавалі юрысты "Прававой клінікі". У гэты зборнік увайшлі артыкул вядомага праваабаронцы Марэка Навіцкага, выняткі з пакета ААН-аўскай сістэмы абароны правоў чалавека "Вызначэнне правоў і свабодаў чалавека" і "Асноўныя дакументы, якія тычацца правоў чалавека", а таксама міжнародныя пакты аб правах чалавека. "Прававая клініка" збіраецца паўтарыць паспяховы семінар у найбліжэйшай будучыні.

*** **21 – 22 верасня 2000 г. у Берасці адбыўся семінар "Кіраванне выдаткамі на вытворчасці"**

IFC

Карыснае мерапрыемства для прадпрымальнікаў і камерцыйных арганізацый ладзіла аддзяленне Міжнароднай фінансавай карпарацыі ў Берасці. Больш за 15 бухгалтараў, эканамістаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў атрымалі практычныя веды па мінімізацыі выдаткаў, дзякуючы намаганням лектара – дэкана эканамічнага факультэта Берасцейскага тэхнічнага універсітэта Анатоля Радчука. Спадзяемся, што семінар прынясе адчувальныя змены ў бухгалтэрыі ўдзельнікаў, бібліятэкі якіх папоўніліся выданнямі МФК "Прававы інфармацыйны бюлетэнь", "Як правесці даследаванне рынку для малога бізнесу", "Пра адносіны суб'ектаў гаспадарання з дзяржаўнымі кантралюючымі органамі", "Шляхі ўдасканалення працоўных узаемаадносінаў".

*Інфармацыйная служба "Каліва"*

*** **Арганізацыя ACDI/VOCA пачала працяг свайго праекта "Эканамічнае развіццё жанчын Беларусі".**

Першыя трэнінгі "Паспяховыя зносіны" і "Кіраваць сабой – супрацоўнічаць з іншымі" прайшлі 17 і 24 верасня бягучага года ў Бярозе. Невялікая колькасць удзельнікаў а гэта былі жанчыны Бярозы і вёскі Першамайская, вельмі якасна папрацавала і дамовілася прадоўжыць сустрэчы. Наступны трэнінг адбудзецца 29 кастрычніка 2000 г., тэма – гендэрная роўнасць.

*** **Надышоў час рэалізацыі лепшых праектаў праграмы "Эканамічнае развіццё жанчын Беларусі", якая праводзіцца амерыканскай некамерцыйнай арганізацыяй ACDI/VOCA.**

Віншуем пераможцаў. Імі ў Берасцейскай вобласці сталі прадстаўнікі маладзёвага цэнтра "Гармонія" (Кобрын) і Пінскае аддзяленне Беларускага жаночага руху "Адраджэньне Айчыны". І першая і другая ініцыятыўная група жанчын выбрала днём рэалізацыі сваёй ідэі 21 кастрычніка. У гэты дзень у Кобрыне адбудзецца прэзентацыя маладзёвай газеты "Прэс-бумеранг", а ў Пінску пройдзе «круглы стол» па праблеме хатняга гвалту.

# «Да лепшага жыцця - праз сапраўдныя выбары»

*Заканчэнне. Пачатак на 2 стар.*

Не прайшла не заўважанай і перамога дэмакратыі ў Югаславіі. Было вырашана накіраваць віншавальную тэлеграму новаму югаслаўскаму прэзідэнту Каштуніцу. Юры Хадыка ўзгадаў, што паводзіны Лукашэнкі нагадваюць яму паводзіны пахана, бандыта шайкі, і настойліва прапанаваў байкатаваць псеўдавыбары. Для гэтага патрэбна, каб выбары не адбыліся ў 37 акругах. Вялікім поспехам карыстаўся Рыгор Варвашэвіч, просты рабочы, які кінуў выклік аблвыканкаму.

Пасля мітынгу людзі яшчэ доўга не адпускалі Хадыку і Шушкевіча, браўшы ў зорак беларускай палітыкі аўтографы. А потым мяне здзівілі берасцейскія СМІ. І калі праўрадавая пазіцыя Бунеевай з «Вячэрняга Брэста» ўсім вядомая, то пазіцыя Рамана Войцішкі з БСТ, які, напэўна, вырашыў ўзяць прыклад з Зімоўскага, мяне шчыра здзівіла. Узнікае пытанне: Рома, цябе сумленне не загрызе?

Як бы там ні было, мітынг адбыўся, і будзем спадзявацца, што перад тым, калі людзі будуць вырашаць пытанне, што рабіць 15 кастрычніка, яны задумаюцца і зробяць правільны выбар.

*Алесь Каханюк*

# Трэба часцей сустракацца

"Цудоўнае побач", і гэта, безумоўна, берасцейская пошта: лісты, накіраваныя з Берасця ў далёкія вобласці, прыходзяць своечасова, а да берасцейцаў не трапляюць увогуле. Так здарылася і з запрашэннямі на вежаўскі семінар 7-8 кастрычніка: берасцейцы толькі краем вуха пры тэлефонным запрашэнні пачулі штосьці пра "Вежу", пачатак семінара ў 10 гадзін і пра свае праекты, што іх адразу і ўпэўніла: "Трэба ісці". Тым болей, на канферэнцыю-семінар збіраліся тыя, хто быў пераможцам конкурса малых грантаў «Падтрымка няўрадавых арганізацыяў, нефармальных груп і ініцыятыўных грамадзян».

Сабралася шмат дзеячаў з арганізацыяў рознага кірунку не толькі з берасцейскай вобласці, але і з Гарадзеншчыны і нават Магілеўшчыны. Прадстаўнікі СМІ і эколагі, на дзіва, былі ў меншасці – па тры чалавекі кожны. Адыграліся тут краязнаўцы, іх было з дзесятак, і гэта зразумела: кожны раённы цэнтр з'яўляецца сталіцай непаўторнай культуры, мовы, мастацтва, і добра, што ёсць людзі, якія імкнуцца ўсё гэта захаваць. Яшчэ адна група ўдзельнікаў – людзі, якія займаюцца праблемамі дзяцей-інвалідаў і маладых інвалідаў. Іх было шасцёра. Астатнія – "назіральнікі" з розных рэсурсных цэнтраў і фондаў.


Удзельнікі канферэнцыі

Паколькі ўсіх удзельнікаў было пад трыццаць чалавек, першая частка семінара – знаёмства, заняла вельмі шмат часу, але ніводнага нельга было абвінаваціць у тым, што яму было сумна.

Краязнаўцы і эколагі няяўна аб'ядналіся пад лозунгам "Праз эстэтыку – да захавання культуры і навакольнага асяроддзя". Паказваючы працы сваіх вучняў, яны прыцягвалі ўвагу ўсіх астатніх да сваёй дзейнасці. Асабліва ўражвала, улічваючы сённяшнія цяжкія сацыяльна-эканамічныя абставіны, зацікаўленасць і праца ў гэтым кірунку маладых настаўніц, чыя прафесія з'яўляецца самай непрэстыжнай на гэты час у нашым грамадстве, але якія праз любоў да сваёй справы здолелі зацікавіць маладое пакаленне.

Сярод выдаўцоў асабліва вылучалася дзіцячая горацкая газета "Несцерка" на беларускай мове, якая распаўсюджваецца ў горацкіх школах, прызначаная для малодшага школьнага ўзросту, але, як паказалі лісты ў рэдакцыю, яе прыхільнікамі з'яўляюцца і старэйшыя школьнікі. Ідэя такой газеты прыйшла да жанчыны, якая была ў дэкрэтным адпачынку і шукала цікавай справы. Гледзячы на "Несцерку", пачалі рухацца і студэнты сельскагаспадарчай акадэміі, пачаўшы выдаваць сваю "Браму ў свет".

Інтэграцыя... Так называюць ў цывілізаваным свеце імкненне людзей з абмежаванымі здольнасцямі і фізічна нармальных людзей кантактаваць паміж сабой, разам працаваць, адпачываць і весяліцца. І гэта тое, чым займаецца чацвёртая група ўдзельнікаў семінара. Давайце запытаем у сябе: ці часта на вуліцах вашага горада вы бачыце інвалідаў? Напэўна, не. Але гэта не паказвае, што іх у нас няма. проста не падрыхтаваныя ні родныя і блізкія, ні нашае грамадства, ні самі інваліды да інтэграцыі ў "нармальны свет". Гэтаму дапамагаюць псіхолагі-прафесіяналы, пазбаўляючы людзей з абмежаванымі магчымасцямі пачуцця ахвяры. Трэба заўважыць, што такой дапамогі патрабуе не толькі канкрэтная група людзей, але і ўся наша "хворая" нацыя. Нарэшце, на другі дзень семінара, калі ўдзельнікі сабраліся не па сваіх кірунках, а выпадкова, каб падрыхтаваць сумесныя праекты, тэма дзяцей-інвалідаў гучала галоўнай ва ўсіх: захаванне гістарычных паркаў дзецьмі і моладдзю з абмежаванымі магчымасцямі; прыцягненне ўвагі, абуджэнне цікавасці моладзі і ўвогуле ўсяго грамадства да праблемаў інвалідаў; падрыхтоўка, высвятленне лідэраў сярод дзяцей і моладзі з абмежаванымі магчымасцямі.

Не шмат бывае семінараў, пасля якіх адчуваеш узрушанасць, жаданне працаваць, пісаць, сустракацца зноў, калі адчуваеш асабісты ўнутраны маральны рост. Гэтая даволі кароткая сустрэча была менавіта такой.

*Паліна Крах*

# Вучыцца жыць з НДА, ці размеркаванне роляў

**Вызначыць, што ёсць НДА (недзяржаўныя арганізацыі) – занятак для заахвочаных інтэлектуалаў. У дакуменце ААН 1994 года, напрыклад, НДА характэрызуецца як "непрыбытковая арганізацыя, сябры якой з'яўляюцца грамадзянамі ці асацыяцыямі грамадзянаў адной альбо болей краін, і дзейнасць якой вызначаецца калектыўнай воляй яе сябраў у адказ на запатрабаванні ўдзельнікаў адной альбо болей груп, з якімі супрацоўнічае НДА".**

Гэтая фармулёўка падыходзіць практычна ўсім аб'яднанням, за выключэннем прыватных фірм, рэвалюцыйных альбо тэрарыстычных груп і палітычных партый. Другія папулярныя заменнікі тэрміна НДА – "прыватныя дабрачынныя арганізацыі", "арганізацыі грамадзянскай супольнасці". "незалежны сектар" - таксама безнадзейна размытыя. Каб зразумець, што такое НДА, неабходна высветліць мэты кожнай з іх, склад удзельнікаў, крыніцы фінансавання і іншыя факты. І ўсё ж такі, хоць не існуе згоды аб тым, чым жа на самой справе з'яўляюцца НДА, усе згодныя з тым, што іх колькасць, уплыў і ахоп дзеяння дасягнулі надзвычайнага ўзроўню.

Да няўдаўняга часу НДА канцэнтраваліся ў развітых і дэмакратычных дзяржавах, зараз новыя групы ўзнікаюць паўсюль – ад Лімы да Пекіна. Яны змяняюць грамадскія нормы, кідаюць выклік мясцовым урадам і ствараюць магутныя транснацыянальныя саюзы з аналагічнымі групамі. Яны прабіваюць шлях у сферы высокай палітыкі, такія, як кантроль над узбраеннем, банкаўская справа і гандаль, у якіх раней дамінавала дзяржава.

Увогуле, НДА уплываюць на нацыянальныя ўрады, міжнародныя арганізацыі, нацыянальныя і транснацыянальныя карпарацыі ў чатырох сферах: у выпрацоўцы праграмных задач, у выніковым перамоўным працэсе, у забеспячэнні легітымнасці і праводзенні прынятых рашэнняў у жыццё.

Заканчэнне на стар. 7

IREX
International Research & Exchanges Board

# Асновы журналістыкі

12-14 верасня ў Берасці адбыўся семінар "Асновы журналістыкі". Арганізатарам трэнінга выступіў фонд IREX\ProMedia. У адрозненні ад падобнага семінара, які быў арганізаваны фондам IDEE, што адбыўся вясной і куды былі запрошаныя пачынаючыя выдаўцы і малатыражныя выданні, восенькі трэнінг быў разлічаны на прафесійных журналістаў, якія стала працуюць у газетах. У семінары бралі ўдзел прадстаўнікі незалежных выданняў Берасцейшчыны і Гарадзейшчыны: "Брэсцкага кур'ера", "Пагоні", "Інформ-прагулкі", "Біржы інфармацыі", "Газеты для Вас", "Вячэрняга Століна", "Глоса знад Нёмна", "Газеты Слонімскай" і інш. Вялі семінар дырэктар прадстаўніцтва IREX у Беларусі Джын МакКензі і карэспандэнт штотыднёвіка "Беларускі рынак" Павел Быкоўскі. Адкрыўся семінар з рытарычнага пытання: "Што такое журналістыка?". Удзельнікі атрымалі адказ не толькі на гэта пытанне, але яшчэ на шэраг іншых, і даведаліся, як правільна пісаць навіны, каментары, аналітыку і шмат чаго іншага. Пад час семінара праходзіў аналіз паспяховых і не вельмі артыкулаў у розных жанрах, разглядаліся пытанні пошуку інфармацыі па пэўнай тэматыцы, працы з інфармацыйнымі агенцтвамі, з крыніцамі (кантакты, палітыкі, афіцыйныя даклады, іншыя газеты). Асаблівая ўвага была нададзена праблемам арыентацыі выданняў на патрэбы чытача, аналізу дадзеных сацыялагічнага даследавання, мастацтву задаваць пытанні і інш. Акрамя таго было шмат розных гульняў, на заканчэнне арганізавана сапраўдная прэс-канферэнцыя, дзе галоўны ўрач Абласнога Цэнтра здароўя Стасевіч Галіна Сцяпанаўна адказала на пытанні журналістаў.

Дарэчы, у супрацоўнікаў IREX даволі цікавы пункт гледжання на атрымание фінансавай дапамогі незалежнымі выданнямі ад замежных фондаў. Сваю пазіцыю на гэты конт яны агучылі ў сваім вераснёўскім бюлетэні "ProMedia". "Гранты робяць газету больш слабай, а не больш моцнай, таму што яны робяць яе лянівай. Да гэтай пары Беларусь атрымлівала мала донарскай дапамогі, бо міжнародныя донарскія арганізацыі лічаць, што працаваць ім тут даволі цяжка. Але я лічу, што калі палітычная сітуацыя пагоршыцца, донарскай дапамогі і магчымасцяў атрымаць грант будзе больш", - піша кансультант IREX/ProMedia Ллойд Дональдсан.

"Атрымліваць грошы проста так – гэта, канешне, добра, але вельмі небяспечна. Кожны грант, які не памяншае затраты газеты, не робіць яе больш эфектыўнай альбо не ідзе на праекты, за кошт якіх падвышаецца даход, - гэта цвік у труну. Трэба вучыцца на горкім вопыце Босніі, дзе гранты знішчылі цэлае пакаленне газетных менеджэраў, прычым прынеслі больш стратаў, чым вайна. Газеты Босніі сталі проста грантаманамі. Субсідзіраваныя міжнароднымі донарамі, яны навучыліся пісаць заяўкі на грант лепш, чым пісаць артыкулы альбо прадаваць рэкламу, нават не імкнучыся зразумець цяжкія урокі газетнага бізнесу". Таму асноўны ўхіл IREX робіць не на фінансавую, а на інтэлектуальную падтрымку розных выданняў Беларусі.

*Аляксандр Кавальчук*

<u>*Паважаныя назіральнікі за выбарамі ў Палату Прадстаўнікоў НацСходу РБ!*</u>
**15 кастрычніка на выбарчых участках пры назіранні ў нас былі і праблемы, і поспехі, і пытанні. Спадзяемся, што і ў Вас было цікава. Сёння мы прапануем супрацоўніцтва для назірання ў далейшым. Мы лічым, што гэтую справу немагчыма зрабіць адной арганізацыі, адной партыі альбо аднаму чалавеку.**
*Будзем радыя атрымаць прапановы сённяшніх і будучых назіральнікаў з Берасця і Берасцейскай вобласці па тэлефоне Цэнтра "Вежа": (0162) 20-34-92.*

## НАВІНЫ

Не будзе вельмі сумна і ў іншых месцах Беларусі: у Калінкавічах пройдзе ток-шоу "Мастацтва быць сям'ёй", у Добрушы – семінар "Жанчына ў сучасным свеце", у Лідзе – акцыя "Моладзь супраць палення, алкаголю і наркотыкаў", у Навагрудку – мастацкі конкурс, у Шклове – дзіцячае свята "Разам з Вамі будзе свята", у Бабруйску – семінар "Правы жанчын у РБ", у Барысаве – акцыя па азяляненні "Сем вятроў" і акцыя супраць палення "Too young to die", у Салігорску – праца ў дзіцячым доме для дзяцей з парушэннем маўлення, у Верхнядзвінску – семінары па прафілактыцы СНІДу, у Полацку – кірмаш ідэй "Натхненне". Шукайце час, каб пазнаёміцца з працай актыўных жанчын Беларусі!

*Аляксандра Бярозава*

*** * * 30 верасня 2000 года ў камінннай зале Цэнтра "Вежа" адбылося першае пасяджэнне "Клуба "На трох".**

У ім узялі ўдзел 15 чалавек, сярод якіх прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў Берасця і гарадоў Брэсцкай вобласці: Пінска, Белаазёрска, Кобрына, Баранавічаў.

Праграма "Клуба "На трох" прадугледжвае серыю семінараў, на якіх будуць абмеркаваны пытанні юрыдычнага характару, справаводства і бухгалтэрыі ў грамадскім аб'яднанні. На першым семінары былі разгледжаны тэмы:

- Правы і абавязкі грамадскага аб'яднання. Парадак іх рэалізацыі і абароны. Ажыццяўленне статутнай дзейнасці. Ліквідацыя грамадскага аб'яднання.
- Справаводства ў грамадскай арганізацыі. Патрабаванні да афармлення дакументаў у адпаведнасці з СТБ 6.38-95. Адміністрацыйная адказнасць за парушэнне заканадаўства аб архівах і справаводстве.
- Агульныя пытанні вядзення бухгалтарскага ўліку ў грамадскім аб'яднанні. Справаздачнасць. Права рэвізійнай камісіі. Падаткаабкладанне дзейнасці грамадскага аб'яднання. Падатковыя ільготы.

*Эні Налобіна*

*** * * У ноч з 30 верасня на 1 кастрычніка бягучага года каля вёсцы Ляплёўка (Брэсцкага раёна) берасцейская моладзевая экалагічная арганізацыя "Расток", што да гэтага часу знаходзіцца ў стадыі рэгістрацыі, ганарова прымала ў свае рады новых сябраў.**

Да гэтай цырымоніі расткоўцы падышлі нетрадыцыйна. Яна была насычаная вельмі цікавымі задумкамі, такімі, як начное блуканне па лесе без ліхтароў, наведанне амерыканскага шпіёна, які засеў на парашуце на дрэве і гаварыў толькі па-ангельску, пошук магілы манчжурскага воіна і інш. Клятву займацца экалагічнымі справамі на карысць грамадства далі 15 студэнтаў БрДУ і вучні 11 класаў. Усе яны не менш, чым паўгады, працавалі з "Растком". На сённяшні момант маладых эколагаў у гэтым аб'яднанні налічваецца больш за 35 асобаў.



НАВІНЫ

*** З 2 па 11 кастрычніка 2000 г. пад Люблінам (Польша) праходзілі "Лясныя варштаты" для дзяцей з Беларусі, Польшчы і Нямеччыны ва ўзросце 12 - 14 гадоў.

Дадзенае мерапрыемства прадугледжвала турыстычныя паходы і арганізацыю агратурызму: урокі верхавой язды, выраб пляцёнак і там-тамаў. 47 удзельнікаў – прадстаўнікоў 4 грамадскіх арганізацыяў розных краінаў – пазнаёміліся з культурай Польшчы, наведалі з экскурсіямі Люблін, Замак Замойскіх у Казлуўцы, Казімеж Дольны. Гэты праект Моладзёвай экалагічнай арганізацыі "Расток" (Берасце) і фонда NOWY STAW (Люблін) пры падрымцы Фонда польска-немецкага супрацоўніцтва "Югендверк" меў на мэце аб'яднанне дзяцей з розных краінаў, знаёмства з жыццём па-за мяжой сваёй Радзімы. Праект будзе мець працяг у наступным годзе.

*Прэс-служба "Растка"*

*** 6 кастрычніка каля ўвахода ў ЦУМ кіраўнік берасцейскага аддзялення праваабарончага цэнтра "Вясна" Уладзімір



Вялічкін праводзіў несанкцыянаваны пікет. Ён трымаў транспарант, на якім былі напісаныя словы Лукашэнкі: "Я голосовать не пойду, всё равно обманут". Пікет пачаўся роўна ў 12 гадзінаў, і практычна адразу на месцы падзеяў быў заўважаны міліцыянт, які пачаў нейкія перамовы па рацыі. Берасцейцы даволі актыўна цікавіліся тым, што было напісана на транспаранце, спыняліся каля пікетоўшчыка для таго, каб паразмаўляць пра набалелае. Пры гэтым сп. Вялічкін раздаваў улёткі, дзе паведамлялася пра ўхвалены гарвыканкамам мітынг на стадыёне "Будаўнік", які павінен быў адбыцца 8 кастрычніка. Дакладна праз паўгадзіны да пікета завіталі міліцыянты, якія затрымалі трох чалавек: непасрэдна Уладзіміра Вялічкіна, хлопца, які фатаграфаваў момант затрымання і Сержука Грыня, які паспрабаваў за яго заступіцца. Затрыманых даставілі ў белы бусік, які незаўважна пад'ехаў да месца правядзення пікета. Але, як і меркавалася, перад выбарамі ўлады не сталі прымяняць нейкія карныя меры і, пакінуўшы ў сябе транспарант, адпусцілі затрыманых, нават не склаўшы пратакол.

*Прэс-служба "Каліва"*

*** З вясны 2000 г. пачала працу праграма псіхалагічных трэнінгаў для настаўнікаў Беларусі, якая ажыццяўляецца Цэнтрам "Супольнасьць" пры падтрымцы Фонда IDEE.

Па задумцы аўтараў прадстаўнікі 8 сярэдніх школаў Беларусі атрымаюць на працягу 6 сесіяў псіхалагічныя веды для працы з дзецьмі. Каб атрыманую інфармацыю магчыма было ўжываць на практыцы, да ўдзелу запрашалі па 3 прадстаўнікі школаў (сацыяльны педагог, псіхолаг, настаўнік-прадметнік). З Берасцейскай вобласці ўдзельнічала СШ № 8 г. Пінска. Апошні семінар гэтага цыкла прайшоў пад Менскам у жніўні. А наступны семінар трэнеры з Кракаўскага аддзялення Інстытута Гештальт-тэрапіі правядуць 3-7 лістапада 2000 г.

*Тамара Мацкевіч*

# Пра прававыя клінікі альбо добра, альбо на семінары

***23 – 24 верасня 2000 г. у Цэнтры "Вежа" адбыўся семінар "Прававая клініка: навучанне студэнтаў права практычным навыкам працы юрыста", які ладзілі валанцёры Прававой клінікі "Вежы". У працы семінара бралі ўдзел студэнты і выкладчыкі права, юрысты, а таксама прадстаўнікі праваахоўных арганізацыяў з розных рэгіёнаў Беларусі: Пінска, Гродна, Менска, Магілёва, Віцебска, Гомеля.***

У першы дзень пасля прадстаўлення трэнераў і гасцей, знаёмства ўдзельнікаў семінара валанцёр праграмы "Прававая клініка" Наталля Еўладава прачытала даклад "Юрыдычная клініка", у якім былі закранутыя пытанні «Што такое юрыдычная клініка?» «Калі і дзе з'явіліся прававыя клінікі?» «Якая роля належыць прававой клініцы?» «У якіх формах яна можа існаваць?» Пасля даклада семінарыс-ты падзяліліся на групы і працавалі над стварэннем праекта Ідэальнай прававой клінікі сваёй групы.

Пасля абеду Зміцер Ерашоў і Раман Кісляк распавялі пра гісторыю стварэння і станаўлення Прававой клінікі Цэнтра "Вежа". Акрамя практыкантаў і валанцёраў берасцейскай прававой клінікі ў семінары бралі ўдзел прадстаўнікі ініцыятыўнай групы па стварэнні юрыдычнай клінікі ў Гродна, а таксама прадстаўнікі Юрыдычнай клінікі Беларускага інстытута Правазнаўства (Менск). Клініка БІП вельмі маладая, рэальна працуе толькі з сярэдзіны верасня 2000 года. Але, нягледзячы на гэта, расказ выкладчыка клінікі БІПа Грыгорыя Налівайкі ўсе ўдзельнікі слухалі з вялікай цікавасцю.

Семінар быў падзелены на некалькі блокаў: "Юрыдычная клініка", "Інтэрв'юраванне кліента", "Аналіз справы і выпрацоўка прававой пазіцыі па справе", "Кансультаванне кліента".

У дакладзе валанцёра клінікі Вікторыі Дзікой "Інтэрв'юраванне кліента" былі закранутыя розныя аспекты інтэрв'юравання: пабудова пачатковай стадыі інтэрв'ю, якое дазваляе дамагчыся



Пабудова юрыдычных канструкцыяў

максімальнага даверу кліента да юрыста, дзе і як пасадзіць кліента (не за краты, а проста ў крэсла), уменне слухаць, розныя метады фармулявання пытанняў, устанаўленне мэтаў інтэрв'ю, збор фактаў, арганізацыя і планаванне інтэрв'юравання. У блоку "інтэрв'юраванне кліента" акрамя даклада ладзілася "гульня з кубікамі" для разумення цяжкасці зносінаў юрыстаў са сваімі кліентамі, дэманстрацыі адмоўных момантаў у інтэрв'юраванні кліента, ролевыя гульні з удзелам "цяжкіх кліентаў", абмеркаванне ролевых гульняў у групах. Такая



Ролевая гульня «Разварушы пытаннямі маўклівага кліента»

схема семінара традыцыйна выкарыстоўваецца на летніх школах для студэнтаў юрыдычных ВНУ "Акадэмія правоў чалавека" (г. Цвер Расія). У працы апошняй III летняй школы бралі ўдзел прадстаўнікі берасцейскай прававой клінікі.

Семінар наведалі прадстаўнікі ABA\CEELI Belarus, якія не толькі паведамілі пра дзейнасць ABA\CEELI, але і актыўна ўдзельнічалі ў працы блока "Інтэрв'юраванне кліента".

На сённяшні дзень, на наш погляд, у Рэспубліцы Беларусь выбух цікавасці да ідэі навучання студэнтаў у юрыдычных клініках. Акрамя дзеючых юрыдычных клінік у Цэнтры "Вежа" (г. Берасце), БІП і ЕДУ (г. Менск) у Гродна працуюць 2 ініцыятыўныя групы па стварэнні юрыдычных клінік, а ў Менску ў БДУ пры садзейнічанні ААН ствараецца яшчэ адна юрыдычная клініка. Цікавасць да працы прававых клінік выяўляюць прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў і ВНУ з розных рэгіёнаў Беларусі.

*Мікола Раманоўскі*

*Независимая экологическая нидерландская организация Milieukontakt Oost-Europa в рамках 2-хлетней программы*

## *«Укрепление позиций общественных экологических организаций в Беларуси»*

*приглашает белорусские общественные экологические организации к участию в конкурсе проектов по проведению общественных кампаний.*

Предлагаемые проекты должны быть нацелены на привлечение внимания общественности к деятельности экологических НГО, что в свою очередь позволит укрепить их позиции в обществе.

Максимальная сумма, выделяемая на проект, эквивалентна NLG 2000.

В результате конкурса планируется отобрать около 5 организаций-победителей.

Заявки на участие принимаются до 15 ноября 2000 г.

Отбор участников будет проводить Millieukontakt Oost Europa совместно с белорусским партнером Международной общественной организацией «Экологическая инициатива «Буренко». Результаты будут объявлены до 1 февраля 2001 г.

**ОРГАНИЗАЦИЯ ОБЩЕСТВЕННЫХ КАМПАНИЙ**

Программа «Укрепление позиций общественных эколоических организаций в Беларуси». Основная цель конкурса - дать возможность белорусским экологическим НГО организовать кампании, нацеленные на привлечение внимания широкой общественности к их деятельности, что в свою очередь позволит укрепить позиции НГО в обществе.

Основные критерии отбора организации-победителей:

I. Информация относительно организации-заявителе.

1. Организация должна иметь статус общественной.



# Развитие женского лидерства в Беларуси

***Все чаще общественные организации и ассоциации далекого Запада желают иметь отношения с коллегами из стран бывшего СССР. NGOs за океаном показывают и рассказывают, как работают они, и интересуются, что происходит у нас. Победители программы ACCELS Community Connections из Брестской и Гродненской областей в январе месяце 2000 года посетили Чикаго (штат Иллинойс). Великолепный прием и интересная программа были подготовлены организацией Heartland International.***

Heartland International – это некоммерческая организация, во главе которой стоят женщины. Организация была основана в 1989 году в Чикаго, где она находится и сегодня. Heartland разрабатывает и проводит в жизнь проекты, имеющие целью политическое, экономическое и социальное развитие, а также программы международного студенческого обмена. Целью одной из программ Supporting the Role of Women in Economic, Political and Social Affairs является поддержка роли женщин в экономической, политической и социальной сферах в странах с зарождающейся демократией.

Heartland поощряет участие женщин в новых демократических институтах. Женщины во всем мире начинают убеждаться, что только они несут ответственность за перемены в их будущем. Heartland тесно сотрудничает с ведущими международными женскими организациями, разрабатывая и проводя в жизнь такие программы, как:

- поездка советских женщин-профессионалов в США, субсидированная обществом Джейн Аддамс, с целью встречи с коллегами и обсуждения общих проблем;
- форум диалога между американскими женщинами и членами женской организации Кении (KANU Maendelo Ya Wanawake).

Показав себя, чикагцы решили посмотреть на нас. По программе Community Connections Heartland уже работала более чем с 50 лидерами белорусских неприбыльных организаций в период 1998 - 2000. В мае 2000 года пять представителей Heartland International посетили Минск, Гродно и Брест, встречаясь с участниками указанной программы.

А в этом году Heartland International начинает **Программу развития женского лидерства в Беларуси,** состоящую из трех частей. Этот проект час-тично финансируется госдепартаментом США, что дает возможность Heartland International продолжать работу с лидерами общественных объединений Беларуси. Во время последнего визита в Беларусь представители Heartland International встретились с группой женщин-лидеров для того, чтобы обсудить будущее развитие проекта женского лидерства в Беларуси.

Первая фаза проекта пройдет в Минске, Гродно и Бресте в период с 26 ноября по 6 декабря 2000 г. Представители Heartland International проведут семинары, направленные на развитие и усиление лидерских способностей группы женщин в каждом городе. Эта группа станет основой для создания неформальной сети женщин-лидеров, которые примут участие в:

- усилении женского лидерства в Беларуси как средства укрепления роли женщин в обществе;
- разработке и расширении программы женского лидерства как неформальной сети женщин-лидеров.

Вторая фаза проекта состоит из трехнедельного тренинга в Чикаго. Для участия в тренинге будут выбираться женщины-лидеры из числа участников предварительных семинаров в Минске. Во время этой обучающей программы в Чикаго участники получат новые лидерские навыки, а также разработают план действий для дальнейшего развития женского лидерства Беларуси. По возвращении в Беларусь участники семинара в Чикаго должны будут провести семинары, направленные на развитие и укрепление лидерских навыков женщин.

Представители Heartland International вернутся в Беларусь для реализации третьей фазы проекта весной – летом 2001 года. В течение этого времени Heartland International и ключевая группа женщин – лидеров будут разрабатывать стратегический план для укрепления и развития женского лидерства в Беларуси. Это будет включать разработку web-сайтов, организацию встреч, неформальных информационных бюллетеней.

Heartland International надеется встретиться со старыми знакомыми и обрести новых партнеров. Ждем ваших заявок!

**За более подробной информацией о проекте обращайтесь к Наталье Петрушкевич 220027, а/я 53, Минск, Беларусь, Тел: (017) 231 30 52, e-mail: natasha@ecodept.unibel.by**

2. Цели организации должны соответствовать целям конкурса.

3. Организация должна иметь возможность выполнить предлагаемый проект (иметь соответственный персонал, опыт работы, технические возможности и т.д.).

4. Организация должна продемонстрировать понимание проблемы, определить четко цели, задачи и методы реализации предлагаемого проекта.

5. Организация должна продемонстрировать необходимость предоставление ей финансовой поддержки.

6. Приоритет будет предоставлен местным НГО, также должно иметь место сбалансированное представительство разных регионов Беларуси.

II. Информация относительно предлагаемого проекта:

1. Цели проекта должны соответствовать целям конкурса.

2. Метод реализации и рабочий план проекта должны соответствовать его целям.

3. Статьи расхода бюджета должны соответствовать целям, методам реализации и рабочему плану проекта.

4. Проект должен иметь важное значение для широкой общественности.

5. Проект должен иметь конкретные, практические результаты.

6. Проект должен продемонстрировать эффективное участие НГО в общественной жизни.

7. Проект должен способствовать улучшению имиджа НГО в обществе.

Подробную информацию об условиях конкурса, а также форму заявки можно получить по следующим адресам:

Владимир Колтунов

МОО «Буренко», ул. Веры Хоружей, 16220123 Минск, Беларусь, тел/факс 375 172-347157, эл.почта: burenco@user.unibel.by

Suzanne Bakker

Milieukontakt Oost Europa, P.O.Box 18185NL-1001 ZB Amsterdam, The Netherlands, тел: 31 20-6392716 факс: 31 20 - 6391379, эл.почта: s.bakker@milieukontakt.nl

За апликационными формами можно обрашаться также в Центр «Вежа».

## Американский Совет по Сотрудничеству в Области Образования и Изучения Языков (ACCELS - АКСЕЛС) сообщает о конкурсах на получение грантов

по следующим программам, полностью финансируемым правительством США. Американский Совет (АКСЕЛС) действует в Республике Беларусь с 1994 года. Образовательные программы проводятся на основании Соглашения о сотрудничестве с Министерством образования и науки РБ от 2 июня 1995 года.



"Региональная Программа Обмена для Исследователей" предусматривает 4-месячную стажировку в США для преподавателей ВУЗов или научных сотрудников, уже имеющих ученую степень или работающих над ней, с целью проведения самостоятельного научного исследования в области гуманитарных или социальных наук.

Срок подачи анкет – до 27 ноября 2000 г.

"Акт в поддержку свободы" для студентов 1-3 курсов предусматривает обучение в вузах США без получения степени в течение одного года по специальностям бизнес, экономика, образование, социология, американистика, журналистика и др. Приглашаются к участию **граждане стран СНГ** - студенты 1, 2 или 3 курсов в возрасте 17 - 23 лет.

Срок подачи анкет – до 10 ноября 2000 г.

Программа Эдмунда С. Маски и "Акт в Поддержку Свободы" для продолжения высшего образования на степень магистра в ведущих университетах США в 2000 г. по специальностям: управление бизнесом, экономика, управление в области экологии, образование, международные отношения, журналистика, юриспруденция, библиотечное дело, общественное администрирование, здравоохранение, политология.

В конкурсе смогут принять участие **граждане стран СНГ и Балтии** в возрасте до 40 лет, имеющие диплом об окончании высшего учебного заведения или планирующие получить диплом до июня 2000 года, свободно владеющие устным и письменным английским языком.

Срок подачи анкет – до 27 октября 2000 г.

"Акт в поддержку свободы" для школьников предоставляет возможность обучения в американских средних школах в течение 2001-2002 года. Отбор претендентов будет проходить на основе открытого конкурса. Принять участие в конкурсе смогут **граждане Беларуси**, которые:

- учатся в 9 или 10 классе и родились в период с 1 января 1985 по 15 июля 1986 года;
- не проживали в США более 3-х месяцев за последние 5 лет;
- хорошо владеют английским языком;
- не имеют препятствий для получения американской въездной визы.

*Анкеты и любую дополнительную информацию о программах можно получить по тел. (017) 236-68-83, либо по электронной почте accels@accels.unibel.by, либо в Интернет по адресу – www.actr.org или www.oic.unibel.by/accels.*

***Пасля трохмесячнага летняга адпачынку на Берасцейшчыне зноў актывізавалася выдавецкая справа. У вераснёўскі перыяд аналітычнай службай «Каліва» было заўважана 9 малатыражных газет, прычым 3 з іх толькі распачалі свой палёт. Таму сённяшні агляд NGOшнай прэсы прысвечаны амаль выключна наваствораным і рэгіянальным выданням.***

# ПРЕСС-БУМЕРАНГ

Пачынаецца наш агляд з Кобрынскай моладзевай інфармацыйна-забаўляльнай газеты «Прэс-бумеранг». Нядаўна ў гэтым горадзе быў створаны прэс-клуб, куды ўваходзяць навучэнцы старэйшых класаў. Ініцыятыўных школьнікаў падтрымлівае моладзевы цэнтр «Гармонія», а кіруе прэс-клубам журналістка Юля Камарова. Зразумела, што адным з самых значных дасягненняў моладзевага клуба было выданне сваёй газеты «Прэс-бумеранг». Як падае нам рэдакцыйны калектыў, «рэдакцыя ў перапіску не ўступае і падарункаў не прымае», а тыраж у яе такі, што «на ўсіх хопіць». Ужо з рэдакцыйнай калонкі можна пабачыць, што маладыя рэпарцёры імкнуцца падысці да справы сур'ёзна, для чаго праводзяць апытанне сваіх будучых чытачоў накont тых тэмаў, якія неабходна закрануць у газеце. Супрацоўнікі «Прэс-бумеранга» імкнуцца да таго, каб рабіць выданне не перадрукоўкай, а больш самастойнай, заснаванай на мясцовых навінах газетай.

Што тычыцца артыкулаў нумара, то яны напісаныя з такой непасрэднасцю, адкрытасцю і гумарам, якія можна заўважыць толькі ў пачынаючых журналістаў, галовы якіх яшчэ не забітыя ніякай спецыяльнай навукай. Самы вялізны матэрыял належыць дзвюм дзяўчынкам - Ірышы Якімук і Валянцішы Бараноўскай з СШ №6 і мае музычную назву «Старушки бывают разные: чёрные, белые, страшные». Дзяўчынкі не пабаяліся наведаць дзвух старых вядзьмарак (добрую і не вельмі) і ўзяць у іх інтэрв'ю. Тэма магіі гучыць таксама і на перадапошняй старонцы, але размова тут ідзе пра нумералогію. Цікавы рэпартаж атрымаўся і ў двух хлопцаў, якія наведалі заатэрарыум і даведаліся пра спецыфіку працы ягоных супрацоўнікаў. Акрамя таго ў газеце можна адшукаць і «перлы школьнага жыцця», і табліцу выдаткаў калорыяў, і абсалютна сімпатычны фельетон Ірыны Васіленкі «Усяго 10 хвілін засталося», і шмат яшчэ чаго цікавага.

Дарэчы, «Прэс-бумеранг» ужо паспеў аб'явіць конкурс на лепшую эмблему да газеты. Бюлетэнь «Каліва» віншуе сваіх маладых калегаў з пачаткам журналісцкай дзейнасці і жадае ім добрых артыкулаў і няспыннага руху наперад!

**Кантактны адрас рэдакцыі: 225860 Брэсцкая вобласць, г.Кобрын, вул. Першамайская, 27. Тэл/факс: 2-54-59.**

# НАШ ГОЛАС

Другім адкрыццём сённяшняга «выдавецкага верасня-2000» стала незалежная газета дэмакратычных грамадскіх аб'яднанняў Бярозаўскага раёна «Наш Голас». Заснавальнікамі новага выдання выступілі Бярозаўскія раённыя арганізацыі Беларускага жаночага руху «Адраджэнне Айчыны», БНФ «Адраджэньне», Партыі БНФ, Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ, ТБМ імя Францыска Скарыны, Праваабарончага цэнтра «Вясна», прадстаўніцтва БХК, Маладога фронта і інш. Выдаваць «Наш Голас» рэдакцыйная рада ў складзе Сержука Русецкага і Тамары Шчапёткінай плануе раз на месяц. На старонках газеты яны мяркуюць гаварыць пра праблемы нашага сучаснага жыцця і пра шляхі іх вырашэння.

Зразумела, што большая частка матэрыялаў першага нумара палітычнага характару. Амаль палову газеты займае інтэрв'ю з намеснікам старшыні грамадскага аб'яднання БНФ Юрыем Хадыкам, дзе ён закранае праблему выбараў, чатырох ўмоваў і супрацоўніцтва апазіцыйных партыяў і руху. Даволі цікавай атрымалася ў газеце падборка мясцовых навінаў, што змешчана на першай старонцы. Гэтая інфармацыя сама па сабе яскрава сведчыць пра той маразм, што існуе ў нашай краіне. Так, з 28-га верасня і да 15 кастрычніка ў гарадскіх кватэрах штодзённа павінна быць гарачая вада - да тае пары, пакуль не скончацца выбары. Можна даведацца і пра новую бяду Беларусі - ураджай, які няма куды падзець. Між тым закупачны кошт на бульбу ў гэты год застаўся на тым жа ўзроўні, што і летась - 50 рублёў за кіло. Калі ў тым годзе частку прадукцыі сяляне здолелі прадаць украінцам па больш высокім коштам, то ў гэтым падобныя аперацыі забароненыя, нават калі ты вязеш сваю ж прадукцыю на сваёй машыне.

Вылучаюцца з агульнай інфармацыі артыкулы Тамары Шчапёткінай. Першы з іх «Калі і што мы страцілі» прысвечаны паступоваму вынішчэнню ў беларусаў пачуцця гаспадара, а другі - «Там и у нас» уяўляе своеасаблівае параўнанне на простым побытавым узроўні жыцця ў Польшчы і ў Беларусі, зразумела, не на карысць апошняй. Пілотны выпуск таксама распавядае пра шлюбную дамову, што ахоўвае супругаў пад час скасавання шлюбу ад шматлікіх непрыемных момантаў, пра ўменне кантактаваць з людзьмі па «закону Лінкальна», а таксама ўтрымлівае рэкламную інфармацыю пра дзейнасць такіх грамадскіх арганізацыяў, як «Адраджэнне Айчыны» і праваабарончы цэнтр «Вясна».

**Адрас для карэспандэнцыі: г. Бяроза, вул. Леніна, 11"А", кв. 31. Тэл. 2-53-84.**

# НАШ ВЫБАР

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

№1 · 7 КАСТРЫЧНІКА 2000г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Асобнае месца сярод новых выданняў займае газета Берасцейскай абласной Рады БНФ «Адраджэнне» і Партыі БНФ «Наш Выбар». Неабходна адзначыць, што яе з'яўленне было шчыльна звязана з маючым адбыцца 8-га кастрычніка мітынгам на стадыёне «Будаўнік». Газета была падпісана ў друк за дзень да акцыі, і таму ў яе на апошнюю старонку трапілі гарачыя навіны. Тытульная старонка пачынаецца з пастановы Сойму Партыі БНФ «Аб актыўным байкоце выбарчага фарсу», які «заклікае грамадзянаў Беларусі не хадзіць на выбарчыя ўчасткі 15 кастрычніка, бо гэтыя псеўдавыбары - марная трата народных грошаў на фармаванне безуладнай дэкаратыўнай «палаткі», якая нічога не зробіць для паляпшэння сітуацыі ў краіне».

Са звароту да чытача можна даведацца, што «Наш Выбар» - «гэта ваша магчымасць атрымаць праўдзівую і аб'ектыўную інфармацыю. Наш выбар - гэта вольная краіна ў цэнтры Еўропы. Гэта вольная незалежная заможная квітнеючая Беларусь, у якой кожны адчувае сабе чалавекам, дзе моладзь мае магчымасць атрымаць добрую адукацыю, працоўны - годны заробак, пенсіянер - годную пенсію».

Згодна са статусам партыйнага выдання разварот газеты цалкам прысвечаны асобе старшыні БНФ «Адраджэнне» Вінцуку Вячорку. На дзвюх старонках змяшчаюцца адказы на пытанні чытачоў газеты «Брэсцкі кур'ер». Нарэшце, апошняя старонка паведамляе пра затрыманне «няправільнага рабочага» сп. Андрасюка, які распаўсюджваў газету «Рабочы», пра пікет, які ладзіў кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» У.Вялічкін, і распавядае пра тое, што неабходна рабіць, калі цябе затрымалі.




Доўгачаканы трэці нумар "Блудэнскага кур'ера" зноў узрадаваў сваім зусім не аматарскім падыходам да выдавецкай справы. З кожным новым нумарам газета ўздымаецца на новую вышыню, прыдумвае нейкія сюрпрызы і ўвогуле здзіўляе тым, што яна існуе. Як даводзіць нам галоўны рэдактар Мікалай Каташэвіч, мінулае лета было для "БК" даволі прыемным, бо газета перамагла ў конкурсе малатыражнай прэсы Берасцейшчыны, дзе акрамя "Кур'ера" бралі ўдзел яшчэ больш за 10 розных выданняў. У "Каліва" на гэты конт ёсць адна слушная прапанова – у левым верхнім кутку тытульнага ліста змяшчаць невялічкую шыльдачку, дзе адзначыць сваю перамогу – як гэта робіць "Брэсцкі кур'ер".

Летнюю тэматыку працягвае абвешчаны рэдакцыяй конкурс. Пад Новы год бутэльку шампанскага атрымае той, чыя гісторыя летняга адпачынку будзе самай цікавай. Новая рубрыка "Халява" расказвае пра вялізнае нічыйнае дрэва, якое з вясны ляжыць на перакрыжаванні Блудэнь-Бяроза-Малеч. Рэдакцыя прапануе жыхарам вёскі, хто першы паспее, набыць такім чынам бясплатныя дровы.

Героем нумара з'яўляецца футбольны трэнер, стваральнік Бярозаўскай каманды "Будаўнік" Барыс Паўлавіч Васілевіч. Гэты чалавек самастойна, не атрымліваючы ніякіх грошаў, трэніруе на школьным стадыёне групу хлопцаў. У найбліжэйшай будучыні трэнер плануе выйграць са сваімі падначаленымі спаборніцтвы па футболе сярод сельскіх школ. Але сапраўдным цвіком з'яўляецца артыкул Ларкова "Ностальгические заметки о былой спортивной, и не только, славе Блудня", публікацыя якога будзе працягнута і ў наступных нумарах. Аўтар расказвае пра жыццё Блудня ў 50-60-я гады, які з'яўляўся даволі моцнай чыгуначнай кропкай Берасцейскай вобласці. Асобная месца ў артыкуле надаецца развіццю спорту ў Блудні, пачынаючы з восені 1950 года. "Галандскі метад" – матэрыял рубрыкі "Нявыдуманыя гісторыі" вельмі добра падышоў бы і да часопіса "Вожык". Асноўная думка гэтага артыкула, здаецца, у тым, што падтрымка свайго становічага іміджу ў вачах іншых можа прывесці да нечаканых адкрыццяў.

Кранае сэрца гісторыя жыцця 93-гадовай Марыі Мікалаеўны Міронавай, лёс якой – тыповы лёс беларускай жанчыны савецкага часу. "Не глядзіце, што я маленькая, - кажа яна, - але я вельмі моцная. І ў першую чаргу духоўна. Сілы паступова здаюць, але вера і надзея застаюцца". Гэта словы і праўда не толькі жанчыны, гэта праўда самой беларускай зямлі.

## ВІЦЕБШЧЫНА ШУКАЕ ПАРТНЁРАЎ

Грамадска-асветніцкая газета Віцебшчыны "За здаровы лад жыцця" зацікаўлена ў супрацоўніцтве з арганізацыямі/ ініцыятыўнымі групамі, якія займаюцца аналагічнай нашай справе – вядуць працу за здаровы лад жыцця. Мы прапануем задумацца аб адносінах да прыроды кожнаму з нас і перастаць шкодзіць у нашым агульным доме.

Кантактны адрас: 211540, Віцебская вобласць, г. Гарадок, вул. Баграмяна, 22 – 55. Рэдактар – Леанід Кузняцоў. Тэлефон – (02139) 2-17-04, e-mail: shcmidt@mail.ru.

Пазнаёміцца з другім нумарам выдання магчыма ў Цэнтры "Вежа".

# Вучыцца жыць з НДА, ці размеркаванне роляў

НДА доўгі час лепш за ўсіх удаецца прыцягваць увагу кіраўнікоў і палітычных дзеячаў да тых ці іншых праблемаў. У пачатку 1800 гадоў такія амерыканскія і еўрапейскія арганізацыі, як, брытанскае і замежнае Аб"яднанне барацьбы з рабаўладаннем былі асноўнай сілай, што вымусіла ўрад прыняць закон супраць гандлю рабамі. У 1945 годзе НДА адыгралі вядучую ролю ва ўнясенні праваабарончых фармулёвак у Статут ААН і ад таго часу выносілі на суд міжнароднай грамадскасці амаль што ўсе галоўныя праблемы правоў чалавека.

Сёння НДА выкарыстоўваюць кампутары і тэлефоны для маланкавага запуску сусветных грамадскіх кампаній, якія вымушаюць палітыкаў тэрмінова вырашаць гарачыя пытанні. У 1997 годзе НДА атрымалі Нобелеўскую прэмію міру за паспяхова праведзеную кампанію ў падтрымку забароны супрацьпяхотных мін, нягледзячы на адмовы ЗША. Галоўнай умовай поспеху было "поўнае рабочае партнёрства" паміж канадскім урадам і кааліцыяй з болей чым 350 НДА з 23 краін. Асаблівую ўвагу публікі і палітыкаў прыцягнула наватарская кампанія кааліцыяў у СМІ з дапамогай Internet, факсаў, электроннай пошты, інфармацыйных бюлетэняў і нават коміксаў. Прыхільнікі дамовы за 14 месяцаў сабралі подпісы ў 122 краінах.

Калі пазней некалькі сябраў кааліцыі абвясцілі аб планах правядзення яшчэ адной кампаніі – супраць стралковай зброі – урад ЗША тэрмінова правёў у ліпені 1998 г. сустрэчы з кіраўнікамі 20 іншых краінаў з мэтай пачаць афіцыйныя перамовы аб магчымай згодзе па гэтым пытанні.

НДА на месцах у стане зрабіць немагчымае магчымым, здзяйсняючы тое, што не могуць ці не хочуць рабіць урады.

Менавіта гэтае ўражанне я вынесла пасля ўдзелу ў Рэгіянальным сімпозіуме "Падтрымка трэцяга сектара ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе", які ладзіў Венгерскі Фонд развіцця грамадзянскай супольнасці з 28 верасня па 1 кастрычніка бягучага года. У сімпозіуме, які адбываўся ў Будапешце, бралі ўдзел прадстаўнікі каля 20 краінаў, такіх, як Украіна, Польшча, Чэхія, Англія, Славакія, Эстонія, ЗША, Румынія, Данія, Азербайджан, Расея і іншых. Апошняя канференцыя падобнай тэматыкі прайшла ў 1998 годдзе, і арганізатары адзначылі, што дынаміка развіцця паказвае сур'ёзныя ўнутраныя і знешнія змены ў жыцці грамадскіх арганізацый, новыя кірункі дзейнасці НДА, новыя абавязкі, ускладзеныя на вядомыя і актыўныя арганізацыі.

Місія сімпозіума "Падтрымка - 2000" - інтэграцыйны аналіз і сінтэз вывучэння найбольш значных намаганняў у грамадскім развіцці і складанні агульнага бачання на бліжэйшыя гады.

Праграма канферэнцыі складалася з пленарных сесій, працоўных «круглых сталоў» па спецыяльна вызначаных тэмах і навучальных трэнінгах па самых актуальных пытаннях працы ў III сектары. Кожны ўдзельнік меў магчымасць абраць для сябе тыя мерапрыемствы, якія лічыў цікавымі, і актыўна ўключыцца ў працу сесій.



Досвед, атрыманы пад час удзелу ў групах "Еўропа – адзін рэгіён?", "Роля рэсурсавых цэнтраў у развіцці і станаўленні III сектара", "Выкарыстанне Internet – адзіная інфармацыйная прастора", "Як выклікаць давер грамадскасці", "Вышэйшая адукацыя для НДА", безумоўна, не толькі інфармацыя на будучыню, але і практычная дапамога ў штодзённай працы.

Але самае галоўнае, на маю думку, што пад час сімпозіума атрымаў кожны ўдзельнік – пачуццё адзінства і прыналежнасці да агульнай мэты – яднання ад узроўню Сусвет да ўзроўню Асобы.

З Беларусі было тры дэлегаты: Ірына Віданава (Выканаўчае Бюро Асамблеі дэмакратычных НДА Беларусі), Аксана Дрэбезава (Беларуская асацыяцыя жанчын-юрыстаў) і я. Нам было сумна і балюча адчуваць, што да мяжы з Польшчай – 15 хвілін з Берасці, а за ёю іншае жыццё, іншая каштоўнасці. Лідэры еўрапейскіх НДА падняліся да складання агульнага, міжкраіннага плана і абагульнення рэсурсаў. Размовы ідуць не аб працы ў межах арганізацыі, а аб кааліцыях, асацыяцыях, сетках. У кожнай краіне (Латвія, Балгарыя, Славакія, Югаславія і іншых) існуюць і працуюць не па адным дзесятку моцных партнёрскіх саюзаў, якія стала развіваюцца і да якіх далучаюцца ўсё новыя арганізацыі-сябры.

Кірункі іх дзейнасці рознабаковыя. Гэта адукацыя, экалогія, жаночы рух, рэсурсавыя цэнтры, выдавецтвы. Імі аплецена ўсё грамадскае жыццё, кааліцыі працуюць не толькі ўнутры сябе, але і паміж сабою і на міжнародным узроўні. Даўно адпала пытанне аб манапалізме і барацьбе за ўладу. Таму што галоўным паказчыкам удзелу і прыналежнасці з'яўляецца толькі штодзённая адданая праца, прафесіяналізм і талерантнасць.

Адным з апошніх па праграме праводзіўся «круглы стол» "НДА і палітыка", пад час якога дзве з паловай гадзіны ўдзельнікі працавалі спецыяльна для беларусаў. Славакі, румыны і югаславы раілі, дзяліліся досведам і пераконвалі. Ні ў водная з гэтых краін без арганізацый III сектара як галоўнага падмурка дэмакратычнага руху не адбыліся б відавочныя змены. Таму пытанне: "Ці трэба НДА ангажавацца ў палітычны рух" - іх здзіўляе. У пэўны момант – відавочна, абавязкова! Ці можа быць інакай? Кожны з нас, па-першае, грамадзянін. З усёй вынікаючай з гэтага адказнасцю.

Мне не было сорамна, калі мы, беларусы, распавядалі аб справах НДА ў нашай краіне. Мы здолелі стварыць і развіць III сектар на Беларусі ў цяжкіх умовах існуючага заканадаўства і бесперапыннага ціску і забаронаў. З III сектарам лічацца, да яго думкі прыслухоўваюцца.

Мы павінны здолець аб'яднацца, разумець адзін аднаго, сябраваць. Мы будуем будучыню роднай краіны, а будаваць яе можна толькі на моцным і цэльным падмурку.

Таму што Еўропа не канчаецца на берасцейскай мяжы.

*Кіраўнік Цэнтра «Вежа» Іна Кулей*

**БЕРАСЦЕЙСКІ РОК-КЛУБ PRESENT**

# Кароль памёр – няхай жыве кароль!

І вось нарэшце надышоў той час, калі мы можам назіраць, як змяніліся нашы погляды за месяц. Варта зазначыць, што яны змяніліся мякка, але кардынальна. Глядзіце самі.

Нязменны лідэр хіт-парада – песня NRM "Паветраны шар" - увогуле не трапіў нават у адзінаццатку. Затое шэдэўр з "Народнага альбома" "Край ты мой, край" нарэшце дачакаўся свайго зорнага часу. Змяніўся не толькі лідэр, а і ўвесь склад хіт-парада. Ён стаў, так бы мовіць, больш цяжкім.

Вельмі ж нас узрадаваў той факт, што лідыруюць песні зусім розных выканаўцаў і праектаў. (Ну як вам спалучэнні: "Сьвяты вечар - 2000" і Gateword, Мельнікаў і Devation. Супер!).

**Такім чынам, перад вамі вераснёўскі хіт-парад:**

1. "Край ты мой, край". Нар. Альбом;
2. "Гэта мы!". А.Мельнікаў;
3. "Партызаны". НРМ;
4. "Адэлька". Народны Альбом;
5. "Тры жалуды". Камэлот;
6. "За туманам". Крыві;
7. "Песьні падземных жыхароў". НРМ;
8. "Таямніцы лесу". Зьніч;
9. "2000 год". Сьвяты вечар 2000;
10. "Inis afalon". Gods Tower;
11. "...уй вам альбо Таталітарызм ня пройдзе". Devation.



*Першыя грамадзяне Незалежнай Рэспублікі Мроі*

# Некалькі класічных замалёвак з жыцця аднаго маладафронтаўца Х ("ікс", а не "Ха")

**Частка III. Х. і яго сябры.**

* * * Аднойчы адна маладафронтаўка Z ехала з адным маладафронтаўцам Х на аўтамабіле. Х не вельмі добра бачыў, а таму імкнуўся рухацца пасярэдзіне дарогі, парушаючы пры гэтым правілы дарожнага руху. Калі іх спынілі міліцыянты і паведамілі, што кіроўца парушыў пэўны артыкул, пэўны пункт, то Х, не ведаючы, якім чынам апраўдацца, сказаў:

- А я баяўся, каб на дарогу не скочыла якое-небудзь звяр'ё.

- Якое звяр'ё на пасту міліцыі? - пакрыўдзіўся міліцыянт.

* * * Аднойчы сябар аднаго маладафронтаўца Х - маладафронтавец Y расклейваў ноччу на слупах налепкі з надпісам «Байкот-2000». І тут да яго падышлі два міліцыянты.

- Што гэта ты за антысавеччыну на слуп павесіў? - грозна спыталі яны.

- Гэта палітычная рэклама, - паспрабаваў пры дапамозе нейтральнага адказу выкруціцца з цяжкага становішча Y.

- Перадвыбарная агітацыя? - не ўглядаючыся пільна ў надпіс, выказаў здагадку адзін з праваахоўнікаў.

- Так, - радасна адказаў Y, - вешаю дэпутатаў.

- А чаму ноччу працуеш? Тут міліцыянт наблізіўся да слупа бліжэй і пачаў чытаць.

- Удзень людзі замінаюць, падыходзяць, пытаюцца, чаму такое дзіўнае прозвішча, якая ў яго праграма і інш.

- А сапраўды, чаму гэта ў яго такое прозвішча дзіўнае - Байкот, і што гэта за нумар 2000?

- Прозвішча як прозвішча, проста ў яго нейкія сярэднеазіяцкія карані і таму Бай-кот. А нумар 2000 таму што ён абяцаў, што праз паўгады заробак у краіне будзе 2000 даляраў у месяц.

* * * Аднойчы адзін маладафронтавец Х выступаў на мітынгу, прычым крычаў так, што ў бліжэйшых хатах дрыжэла шкло. Пасля мітынгу ён даваў вельмі завышаныя лічбы ўдзельнікаў акцыі. Калі нехта з карэспандэнтаў сказаў, што такія лічбы не адпавядаюць рэчаіснасці, Х не стрымаўся:

- Чаму не адпавядаюць?! Мой голас чула ледзьве не палова мікрараёна, нават калі яны яго чуць і не хацелі. Гэта пацвердзіў і той натоўп, які сустрэў мяне пасля мітынгу. Мне давялося нават прабегчы з групай узрушаных маёй прамовай грамадзянаў, прычым я ўзначальваў гэты марафон і перамог з вялікім адрывам.

* * * Аднойчы маладафронтаўцы, што тусаваліся на адным з семінараў у Польшчы, ехалі на аўтобусе, калі ў салон нечакана зайшоў кантралёр. На шчасце, у маладафронтаўцаў было чатыры квіткі, але кепска, што маладафронтаўцаў было пяцёра. Жэрабя вызначыла, што зайцам пашчасціла быць прызначанаму маладафронтаўцу Х. Плаціць штраф Х адмовіўся, а таму яго этапіравалі ў пастарунак. Два вялізныя паліцыянты, даведаўшыся, што маладафронтавец з краіны, дзе пануе Лука, і што ён не мае сродкаў, павялі Х па калідоры. Х па дарозе паспеў пралічыць усе магчымыя вынікі і ўжо спрабаваў сімуляваць эпілептычны прыпадак, крыкнуць «Ешчэ Польска не згінэла», упэўніць ахоўнікаў і сябе, што ён пляменнік Квасьнеўскага і падарыць ім бел-чырвона-белыя сцяжкі, але нічога не дапамагала. Паліцыянты нарэшце давялі Х да дзвярэй і ўпіхнулі ў сталоўку, дзе пачалі частаваць смачным абедам. «Больш ніколі не буду купляць квіток на аўтобус», - падумаў Х. «Дарэмна мы яго пакармілі, ён жа больш ніколі не будзе купляць квіткі», - падумалі паліцыянты.




## Конституция Белобрысии

*Продолжение обыденного законотворчества. Начало в №5-13*

**Раздел XI.**
**Раздел... как много в этом слове неприкрыто.**

Арт. 152. Президент Белобрысии уронив достоинство, делает вид, что это не его.

Арт. 153. В Республике Белобрысия чувство признательности государству приходит вместе с верёвкой на шее.

Арт. 154. В Республике Белобрысия трудно говорить правду, если не знаешь, чего от тебя ждут.

Арт. 155. В Республике Белобрысия если судить по зарплате, то уже давно пора судить.

Арт. 156. В Республике Белобрысия отдельные недостатки стремятся к объединению.

Арт. 157. Если из деятельности президента Белобрысии вычеркнуть все ошибки, то останется лишь подпись.

Арт. 158. В Республике Белобрысия работает принцип: от каждого по способностям, каждому по суду.

Арт. 159. В Республике Белобрысия чем выше уровень безработицы, тем больше государственных праздников.

Арт. 160. В Республике Белобрысия если мужик становиться президентом, то это ещё не значит, что в стране уже демократия.

Арт. 161. Президент Белобрысии до такой степени не принимает на веру свои слова, что всегда удивляется, когда другие понимают его буквально.

Арт. 162. Когда на твой вопрос отвечает президент Белобрысии, перестаёшь понимать вопрос.

Арт. 163. В Республике Белобрысия знаки арифметических действий имеют обратную силу: если президент Белобрысии говорит, что ежемесячно к зарплате бюджетников прибавляется 5-10$, то бюджетники ощущают это как вычитание из своих зарплат по 5-10$, а в случае, когда речь идёт о том, что благосостояние приумножается, то на деле благосостояние отделяется от граждан.

Арт. 164. В Республике Белобрысия частица "не" всегда пишется отдельно с глаголами, но обычно ставится перед предлогом "для", например, "В Белобрысии государственный транспорт не для пассажиров, библиотеки не для читателей, магазины не для покупателей и т. д.".

Арт. 165. Высшим достижением мысли в Республике Белобрысия являются способы её подавления.

Арт. 166. В Республике Белобрысия легче выдавить из себя «Да здравствует!», чем раба.

Арт. 167. В Республике Белобрысия за всё надо расплачиваться, и чаще за то, чего не имеешь.

Арт. 168. Президент Белобрысии является вождём в законе.

Арт. 169. В Республике Белобрысия как бы плохо граждане ніе говорили о правительстве, оно думает о них ещё хуже.

Арт. 170. Оптимистический взгляд президента Белобрысии рождает пессимизм у граждан Белобрысии.

*Продолжение продолжения окончания не за горами...*

**Галоўны рэдактар:** Ян МЕСАГА
**Карэктар:** Зьміцер МОРАЧ
**Макет і вёрстка:** Людміла ШАЙДЗЯНКОВА

КАЛІВА
Бюлетэнь Берасцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА»

Падпісана ў друк 17.10.2000 г. у 18.00
Наклад 299 ас.

*Зьвярстана на настольна-выдавецкай сістэме прыазёрскага цэнтра «Тасіка»*



**Адрас:** г. Берасце, вул. Савецкіх Памежнікаў, 52
Тэл. (0162) 20-34-87 Тэл./факс (0162) 20-34-92
e-mail: vezhain@brest.unibel.by

*Бюлетэнь Берасцейскага абласнога Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА» друкуецца на правах унутранага карыстання*